


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (1085) | БЕЛАСТОК 12 СНЕЖНЯ 1976 г. | ЦАНА 60 гр.




Дзявочы калектыў з Бельскага белліцэя (II месца ў катэгорыі сучаснай песні)

Фота Я. Цялушэцкага.




## Новыя вершы

*Калі прайшоў ты і агонь, і снег,*
*Смак працы ўведаў і ад славы збег,*
*Кахаў жанчын, піў асалоду кніг —*
*Не думай,*
*што ты ўсё ў жыцці спасціг.*

*Галоўны страх і горычы глыток*
*Яшчэ ў цябе наперадзе, браток...*

*Калі адчуў ты, як мінае час,*
*Як менее ў душы вясны запас,*
*Як многа значыць кожны дзень*
*і міг —*
*Не думай,*
*што цану жыцця спасціг.*

*Галоўны сэнс і мудрасці глыток*
*Яшчэ ў цябе наперадзе, браток.*

*Калі ж,*
*яшчэ не верачы бядзе,*
*Твой самы блізкі сябар упадзе*
*І пераступіць чорны той рубеж,*
*А ты ў бяссіллі неба праклянеш*
*І зразумееш беззваротнасць страт,*
*Тады лічы,*
*што ты мудрэеш, брат,*

*Тады табе адкрыецца спаўна*
*Жыцця неверагодная цана...*

**Генадзь Бураўкін**

## Праз тыдзень у „Ніве"

**Пленум ГП БГКТ ● Беларускія акцэнты ў белавежскім музеі ● Не толькі хлебам і працай ● Беларускія героі Алімпіяды ● Гандляры „белай смерцю" ● З гісторыі нашых школ ● Пра пабудову святліцы ў Рыбалах ● Быццам бы ў гіпнозе ● Кляшчэлеўскія ветэрынары ● Што новага ў гмінах ● весткі з Мілейчыц, Трасцянкі, Бельска, Чаромхі, Дубіч Царкоўных ● Калі сніцца цыбуля... ● Песня „Niebo z moich stron".**

# Што будзе ў Міхалове?

У ліпені гэтага года пачаў працаваць у Міхалове ПГР, які ахоплівае сваёй дзейнасцю тэрыторыю Міхалоўскай і Гарадоцкай гмін. Падставай яго дзейнасці з'яўляюцца землі дзяржаўнага фонду зямлі (ПФЗ), якія паходзяць у асноўным з гаспадарак, здадзеных дзяржаве прастарэлымі сялянамі за пенсію. У сучасны момант у яго ўладаннях знаходзіцца 1 200 гектараў угоддзяў, у будучым годзе прыбудзе 900 га, да 1980 г. гаспадарка будзе мець не меней 6 тысяч га, а да 1985 г. — 15 тысяч га. Пакуль што ПГР гаспадарыць толькі на землях з ПФЗ, у будучым жа ён пяройме цяперашнія ПГР-ы ў Геранімове і Валілах, а таксама землі СКР-аў. Такім чынам, міхалоўскі ПГР ахопіць аграмадныя прасторы ўсяго вярхоўя ракі Супраслі. На яго абшары будзе знаходзіцца большая частка Семяноўскага вадасховішча, будзе пракладзены канал Нарва—Супрасль.

Ужо ў ліпені будучага года ў Міхалове (на абшары паміж цяперашнім Міхаловам і могілкамі) пачнецца ўзвядзенне першых 6 жылых дамоў па 18 кватэр кожны, усе яны павінны быць перададзены ў карыстанне да ліпеня 1979 г. Гэта будзе толькі невялічкая частка таго цалкам новага ПГР-оўскага пасёлка, у якім у 1985 г. будзе жыць 4,5 тысячы жыхароў і будзе ў ім комплекс сацыяльна-бытавых аб'ектаў (крамы, павільёны паслуг, яслі, дзіцячы сад, дзесяцігадовая школа і г.д.). Непадалёк ад пасёлка, у раёне былога міхалоўскага ПОМ-у, паўстане галоўная база механізацыі ПГР-у. Цэнтр мінеральных угнаенняў разам з аэрадромам для сельскагаспадарчых самалётаў узнікне каля станцыі Валілы. Ужо ў будучым годзе пачнецца пабудова сушыльні зялёных кармоў у вёсцы Пянькі. Сырая зялёная кармавая маса будзе пастаўляцца ў яе з комплексу лугоў з ваколіц Пянькоў і Меляшкоў. Лугі цяпер якраз меліяруюцца. Другая сушыльня паўстане ў раёне ўрочышча Рабінаўка. Яна будзе базавацца на тамашніх вялікіх абшарах лугоў. Затым будуць пабудаваны яшчэ тры сушыльні. У планах знаходзіцца таксама і ўласная фабрыка кармоў, паўстане яна ў раёне вёскі Пянькі.

Усё гэта паказвае, што ў будучым міхалоўскім ПГР-ы жывёлагадоўля будзе займаць важнае месца. І на самай справе. Адна вялікая ферма з дзвюма тысячамі дойных кароў паўстане ў Пяньках, другая ж — з адной тысячай кароў — будзе пабудавана ў сённяшнім ПГР-ы Валілы. У вёсцы Меляшкі пабудуецца цялятнік для 900 штук. Падобны аб'ект, толькі для 1500 штук цялят, будзе збудаваны каля Геранімова. Там жа будзе ўзведзена вялікая, бо аж для 4 200 штук, ферма адкорму ўбойнага быдла. У ваколіцах вёскі Шымкі будуць пабудаваны тры авечкафермы па 6 тысяч штук матак кожная, агулам авечы статак будзе складацца са звыш 50 тысяч штук. У сувязі з гэтым там жа паўстане бойня і гарбарня, а ў Міхалове — кушнерскае прадпрыемства. Для адпаведнага загаспадарання ўсіх адпадкаў ад гадоўлі плануецца збудаваць гіганцкую, найбольшую ў Еўропе, ферму гадоўлі лісіц на тры тысячы матак. Пераважаючая большасць гэтых аб'ектаў будзе гатова да 1985 года.

Вядома, што поспех справы залежыць ад кадраў. І пра гэта ўжо думаюць і начальнік гміны і дырэктар ПГР-у. Яны бачаць неабходнасць даць цяперашняй Школе механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове ранг тэхнікума або ліцэя і ўвесці ў ёй дадаткова новы напрамак — сельскагаспадарчы, каб ПГР меў пастаянны прыплыў спецыялістаў з сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй. Спецыялісты з вышэйшай адукацыяй будуць таксама, бо папершае, шэраг выхадцаў з гэтых ваколіц закончыла вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы і цяпер выказваюць гатоўнасць прыехаць у свае родныя бакі, па-другое, міхалоўскі агульнаадукацыйны ліцэй штогод заканчвае шэраг асоб, якія потым падаюцца ў сельскагаспадарчыя школы, каб пазней вярнуцца ў Міхалова. У Гарадку і Міхалове, а таксама ў вёсках абедзвюх гмін яшчэ ёсць многа людзей, якія з ахвотай прыдуць на сталую работу ў ПГР.

Развіццё ПГР-у зусім не абазначае ўшчамлення інтарэсаў індывідуальных сялян-гаспадароў. Яны могуць і далей развіваць свае гаспадаркі, павышаючы ўраджаі і

(Працяг на стар. 4)

# І ў песні і ў працы

Што ў **Раманюка Мікалая**, сына **Яфіма**, голас быццам звон, ведае ўвесь **Дубяжын.** Бо ці веселле гуляюць, ці гасціна нейкая выпадае — заўсёды ён ахвоч паспяваць, а людзі паслухаць: надта ж чула і звонка выконвае ён песні, асабліва свае, народныя. Але, вядома, у гаспадарцы такая здольнасць хіба ж толькі дзеля свята, бо што ж ты ў будні дзень за плугам з тым голасам рабіць будзеш? І прыкмеціў гэта Аляксандр Раманюк, што ўжо некалькі год спяваў у бельскім беларускім хоры, ды схіліў падысці да іхняга дырыжора. Якісьці час ні то сорам ні то боязь нейкая апанавала, але неяк пераламаўся ён ды паехаў у Бельск. Было гэта ў 1964 г. Ад таго часу пачалося: раз, а то і два разы ў тыдзень, як толькі надвячорак — бягом на станцыю. Пасля ж рэпетыцыі зноў на цягнік ды поначчу дахаты. Але што значылі гэтыя цяжкасці ў параўнанні са спевам, **добрым спевам!**

— У сяле я ўжо чацвёрты год солтысам, — кажа М. Раманюк. — Не скажу, каб гэтая роля была лёгкай. Разам у нас у Дубяжыне і Падбеллі 150 гаспадарак, так што ёсць каля чаго пахадзіць, асабліва калі хочаш, каб у вёсцы нешта было. Вось хоць бы справа аховы здароўя. Мы ў грамадскім чыне будуем вясковы пункт здароўя, шмат ужо зрабілі, але яшчэ трэба нямала папрацаваць. Занялі мы першае месца ў гміне па ўзносах у Грамадскі фонд здароўя, уплацілі 30 тысяч злотых. І вакол усяго гэтага давялося солтысу не мала патупаць. Ці дарога з Дубяжына ў Кошкі. Таксама будуем яе грамадскім чынам. Жвір сыпле пераважна Дубяжын, бо Кошкі кажуць, што яна ім не надта ўжо і патрэбная. Але нашыя людзі на гэта не зважаюць — працуюць ахвотна. Збудавалі мы і новую прасторную школу, грамадскім чынам перавезлі будынак, склалі ў зруб, дапамаглі ў іншых працах. Ужо сем год я з'яўляюся старшынёй бацькоўскага камітэта. Што ж, людзі даверылі ды і сам бачу — трэба дапамагчы...

— Усё ж прыемна, калі людзі давяраюць і шануюць?

— Яно то бачыце розна бывае з гэтым даверам ды пашанаю. У мінулым годзе



наша сяло за высокія ўраджаі і жывёлагадоўлю, а таксама за грамадскія чыны і дзейнасць вось гэтага самага нашага хору заняло ў гміне першае месца ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная" і атрымала 30 тысяч узнагароды. Скажу вам па шчырасці — радасці ў нас і канца не было! І пасля доўгіх разважанняў старэйшых гаспадароў рашылі мы за гэтыя грошы правесці электрычнае асвятленне па дарозе з Дубяжына на станцыю Падбелле. Рэч гэтая нам вель-

(Працяг на стар. 4)

## ШТО НОВАГА?

### КУДЫ ПАДЗЕЦЬ МІЛЬЁНЫ?

Усім вядома, што калі ў чалавека няма сродкаў на жыццё, ён хваравіта ламае галаву над пытаннем, адкуль іх узяць, як зрабіць? Але не ўсім вядома і супрацьлеглая з'ява: ёсць людзі, якія не менш хваравіта ламаюць галаву над тым, куды падзець грошы.

Капітал англійскага мільянера Дэвіда Джэймса складае 2 мільёны 300 тысяч долараў (1 млн. 250 тыс. фунтаў стэрлінгаў). А родзічаў у гэтага чалавека, якія б дапамаглі яму траціць яго грошы, няма. Так што зараз „бедны“ 56-гадовы Дэвід Джэймс амаль у роспачы. куды падзенецца яго багацце, калі ён памрэ? „Не хочацца, — з высакародным пачуццём гаворыць ён, — каб гэтыя грошы дасталіся скарбам дзяржавы. Хочацца, каб яны былі патрачаны дзеля нейкай цікавай, шматабяцаючай мэты, але дзеля якой, не ведаю...“

Так нічога і не прыдумаўшы, няшчасны мільянер звярнуўся праз газету „Дэйлі-Мірор“ да чытачоў за парадай. І тыя не прымусілі чакаць. Адазвалася аж 36 471 чалавек. І многія з іх падказалі самыя разнастайныя „цікавыя і шматабяцаючыя мэты“. Адзін чытач прапанаваў фінансаваць будаўніцтва падводнай лодкі для вывучэння страшыдла вядомага возера Лох-Нес: на самай справе, да якой пары гэтая пачвара будзе інтрыгаваць і пужаць чалавецтва? Другія раілі страціць мільён на вывучэнне жыцця на тым свеце. Мастак, які даўно ўжо лічыць сябе геніем, але не можа рэалізаваць свой талент, прапануе прадаць гэты талент Джэймсу за адзін мільён — бярэцца зрабіць ад яго імя цыкл палотнаў і тым самым забяспечыць бессмяротнасць славутага мецэната. Малады чалавек, які закахаўся ў дзяўчыну, завяраў багача, што калі б той не пашкадаваў для яго мільёна, то сімпатыі дзяўчыны былі б на яго баку. Уносіліся і такія прапановы, якія не вытрымлівае наш друк. А адны шчаслівыя маладажоны так і не змаглі прыдумаць для мільянера якой-небудзь „шматабяцаючай мэты“. Яны здолелі прыдумаць, куды можна падзець толькі 250 тысяч: даслаць для іх сям'і, а астатні капітал няхай паважаны Джэймс страціць як захоча сам.

Між тым няшчасны мільянер не палічыў мэтазгодным ні купіць талент мастака разам з неўміручай славай для сябе, ні каханне дзяўчыны для ўлюбёнага чалавека, ні дараваць 250 тысяч шчаслівым маладажонам. Не пажадаў ён асабістага знаёмства і са страшыдлам возера Лох-Нес, не спяшаецца і вывучыць жыццё на тым свеце. Ён вырашыў, што людзі, якія добрасумленна выказалі свае шматлікія парады, маюць нядрэннае пачуццё гумару, і таму мільёны хутчэй за ўсё трэба завяшчаць на стварэнне выдавецтва для англійскага гумару.

Ніхто аднак не выказаў думкі, што гэтыя мільёны можна было б ахвяраваць на паляпшэнне дабрабыту працоўных і асабліва беспрацоўных, напрыклад, сіроцкіх дамоў. Бо гэта азначала б проста вярнуць капітал тым, чыімі рукамі ён створаны. А гэта ўжо звыш англійскага гумару.

## Чэслаў Неман у Беларусі



**Чэслаў Неман быў госцем сёлетняй „Беларускай музычнай восені“. З гэтай нагоды „Чырвоная змена“ правяла са спеваком інтэрв'ю. У ім шырока прадставіла сваім чытачам госця Беларусі, краю, дзе ён нарадзіўся і дзе прайшло яго дзяцінства (Юліуш Выджыцкі — сапраўднае прозвішча спевака — нарадзіўся ў вёсцы Васілішкі, непадалёку ад Гродна, на беразе Нёмана).**

**Прапануем нашым чытачам найбольш цікавыя фрагменты гэтага інтэрв'ю.**

Пра Немана пачалі гаварыць як пра эксперыментатара, авангардыста, стваральніка новай музыкі. Мала хто адважыцца даць назву яго музыцы.

— Так, цяжка даць назву гэтай музыцы, — сказаў Чэслаў Неман. — Справа, пэўна, у вытоках маіх музычных роздумаў. Гэта — фальклор, сусветны фальклор. Тым не менш, мяне больш цікавіць славянская народная музыка. Аднак у маіх творах яна выступае не ў выглядзе апрацовак. Проста прысутнічаюць у гэтай музыцы некаторыя музычныя акцэнты, лады, гармонія. На іх будуецца структура твора. Акрамя гэтага, выкарыстоўваю элементы афрыкана-кубінскага блюза. Гэта таксама, на мой погляд, музыка народная. Па форме мая музыка набліжаецца да сур'ёзнай, сімфанічнай музыкі. А часам даходзіць да сучаснай какафоніі. Праўда, у апошні час я адмаўляюся ад какафанічнага гучання. Часта з'яўляюцца ў маіх кампазіцыях пейзажныя замалёўкі, стэпавыя прасторы і гэтак далей. Эксперыментую ў галіне электроннага гучання музычных інструментаў.

**— У апошні час Вы пішаце музыку на вершы сучасных польскіх паэтаў-класікаў...**

— Паэзія — вельмі важны момант у маёй творчасці. Мяне цікавіць паэзія высокагуманная, філасофская паэзія, у якой гучыць захапленне працай і чалавекам працы. Пачынаючы з пласцінкі „Жалобная рапсодыя памяці Бема“ пачалося маё захапленне вершамі цудоўнага польскага паэта XIX стагоддзя Цыпрыяна Норвіда. Паэзія Норвіда — гэта глыбіня, эмацыянальнасць, маштабнасць. І мая апошняя праграма, з якой я прыехаў у СССР, напісана таксама на вершы Норвіда.

**— Асабліва цяпер у маладых кампазітараў назіраецца цікавасць да класікі. З'яўляюцца цікавыя кампазіцыі — апрацоўкі класікі. Напрыклад, „Малюнкі з выстаўкі“ Мусаргскага ў апрацоўцы ансамбля „Эмерсан, Лэйк і Пальмер“. Ваша музыка таксама сугучная многім выдатным класічным творам...**

— Апрацоўка Эмерсанам Мусаргскага цікавая і прафесійная. Але ў мяне крыху іншы падыход да класікі. Я не хачу рабіць сваіх апрацовак класічнай і народнай музыкі. Я проста выкарыстоўваю элементы, якія існуюць у класіцы, якімі карысталіся выдатныя кампазітары мінулага. На гэтай базе можна зрабіць шмат новага, арыгінальнага. Так што я не падтрымліваю спроб выконваць класіку ў стылі рок-энд-рола. Наогул, мы ўсё гаворым пра нейкую сучасную маладзёжную музыку. Але такой музыкі не існуе. Ёсць проста добрая музыка. Або яе зусім няма.

**— І ўсё ж, што сёння адбываецца ў ў свеце папулярнай музыкі? Якой Вы бачыце музыку будучага? Ці не з'яўляюцца першым крокам у заўтрашні дзень Вашы музычныя пошукі?**

— Музыка будучыні — гэта музыка для шырокіх мас, якую людзі павінны разумець і прыходзіць ад яе ў захапленне. Я стараюся стварыць своеасаблівы масток ад сур'ёзнай музыкі да папулярнай. У іх сінтэзе — невычэрпныя магчымасці. У гэтым напрамку ўжо зроблена шмат.

**— Некалькі гадоў назад Вы запісалі пласцінку з рускімі народнымі песнямі. І гэта гастрольная паездка ў СССР, напэўна, дасць нямала матэрыялу для далейшай работы?**

— Пласцінка, пра якую вы гаворыце, — гэта шэраг успамінаў майго дзяцінства. Тыя цудоўныя песні, што спявалі ў Васілішках, засталіся ў маёй памяці на ўсё жыццё. За час гастроляў у Савецкім Саюзе я набыў зборнікі народных песень, пласцінкі. Думаю, што яны мне спатрэбяцца. У хуткім часе запішу новую пласцінку на словы Сяргея Ясеніна.

**— Яшчэ адно, традыцыйнае пытанне. Чэслаў, як вы адчуваеце сябе ў тых мясцінах, дзе нарадзіліся і выраслі?**

— У Беларусі ў мяне засталося шмат знаёмых, сяброў. Вельмі прыемна было з імі сустрэцца. Мяне пастаянна цягне на радзіму. Чалавек навечна застаецца там, дзе ён нарадзіўся, выхоўваўся. Я звязаны сваім сэрцам з гэтай зямлёй, краявідамі. Вельмі рады, што прыехаў у Мінск, які адбудаваўся, папрыгажэў. Гады ідуць. Многае мяняецца. Не пазнаў я і Гродна. Пачуцці ў мяне да радзімы сваёй самыя цёплыя...

**Чэслаў Неман... Суперзорка сусветнай славы. І зусім не чарговы „ідал“, не зорка-аднадзёнка. А прыемны, дасціпны чалавек. Чалавек, які разважае, які стварае, які заўсёды ў пошуках. Сваёй гуманнай, філасофскай музыкай ён дастаўляе радасць і асалоду людзям. І ў гэтым гуманізм кампазітара, спевака, музыканта. Услухайцеся ўважліва ў яго песні, і тады стане зразумела, хто такі Чэслаў Неман і што ён хоча сказаць сваім мастацтвам людзям.**

**В. Ракіцкі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 11.XII.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Biolog. 10.00 Dla szkół: Zoolog. kl. VII Świat owadów. 11.30 07 zgłoś się — film ser. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.20 Mech. rol. 14.50 Red. szk. zap. 15.05 Pr. dnia. 15.10 Dla dzieci. 15.40 Dziennik. 15.50 Obiektyw. 16.10 Lekt. Pegaza. 16.30 Fakty, op., hip. 17.00 Kółko i krzyżyk — teletur. 17.20 Sobota mł. 18.10 Tajemnice mórz — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Daleko od szosy — film ser. 22.10 Dziennik. 22.25 Turniej płytowy.

**Niedziela — 12.XII.** 6.55 Tech. Rol. J. pol. 7.25 Mech. rol. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Piórkiem i węglem. 11.10 Wielkie bitwy historii — Getysburg — film dok. 12.10 Dziennik. 12.30 Rolnicze rozmowy. 13.00 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek — 13.XII.** 12.45 Tech. Rol. Teatr Oświec. 13.25 Praca, energ. i moc cz. II. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: Sean O'Casey „Junona i paw”. 22.10 Camerata — pr. muz. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 14.XII.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Fiz. 9.00 Dla szkół: J. pol. kl. V Spotk. z pisarzem. 10.00 Czerw., żółte, ziel. 11.15 Wojna i pokój — film ser. 12.00 Dla szkół: Hist. kl. VIII W obliczu wojny. 12.55 Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. rośl 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.50 Interstudio. 18.20 Woody Herman — pr. muz. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Trzecia córka — film fab. radz. 22.20 Serenady wieczor. 22.40 Dziennik.

**Środa — 15.XII.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: Chem. kl. VII. 11.05 Fiz. kl. VIII. 12.00 Wych. muz. kl. VII—VIII. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Rodowody — Marcin Kasprzak. 18.15 Lekt. Pegaza. 18.35 W Starym Kinie. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Marty — film fab. USA. 22.15 Witold Lutosławski — pr. publ. 22.30 Dziennik.

**Czwartek — 16.XII.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 11.05 Dla szkół. J. pol. kl. III lic. 12.00 J. pol. kl. VIII. 13.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.25 Pożegnanie ze sceną — film muz. 18.50 Przypominamy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 07 zgłoś się — film ser. 21.35 Pegaz. 22.20 Niezapomniane melodie. 22.50 Dziennik.

**Piątek — 17.XII.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Chem. 11.30 Film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Dla mł. widzów. 18.00 Inf. Wyd. 18.10 Tajemnice mórz — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Film fab. 22.20 Recital Bożeny Parzyńskiej. 22.15 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 10.XII** — 7.30 Film ser. 16.45 Film fab. 18.00 Nasza biografia. Rok 1922. 19.30 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 20.15 Pr. rozr.

**Sobota 11.XII** — 10.45 Koncert. 12.20 Film fab. 16.45 Piosenki kompozyt. radz. 17.30 Film fab. 19.30 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 21.00 Koncert.

**Niedziela 12.XII** — 13.30 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 16.00 Klub film. 17.40 Film fab. 19.30 Koncert.

## КІНО

**Białowieża** Pojedynek potworów — jap. 14—15. Piaf — fr. 16—17. Nie ujdzie ci to płazem — fr. 18—19.

**Bielsk Podl.** Adaptacja — węg. 14—15. Ikar — NRD 16—17. Świat Dzikiego Zachodu — USA 18—19.

**Czyże** Halo taxi — NRD Kalendarz warszawski — pol. 15—19.

**Dubicze Cerkiewne** Pięć łatwych utworów — USA. Kazimierz Wielki — pol. 15—19.

**Gródek** Z podniesionym czołem — USA 18—19.

**Kleszczele** Białe słońce pustyni — radz. 14—15. Hitler z naszej ulicy — jug. 16—17. Nocne widma — ang. 18—19.

**Michałowo** Z podniesionym czołem — USA 14—15. Sędzia z Texasu — USA 16—17. Melodie z przedmieścia — panam. 18—19.

**Mielnik** — Dom lalki — ang. 15. Nieposkromieni hajducy — węg. 18—19.

**Milejczyce** Opowiadanie o przyjaźni — pol. 14—15. Premia — radz. 16—17. Bez wyjścia — szwedz. 18—19.

**Narew** Iwan Kondarow — buł. Złodziejskie gry miłosne — czes. 15—19.

**Narewka** Hallo taxi — NRD. Kalendarz warszawski — pol. 15—19.

**Nurzec** Niewygodny kochanek — wł. 14—15. Tak się zaczyna miłość — czes. 16—17. Policjanci — USA 18—19.

**Orla** Jesień debiutantów — rum. Anna i komandor — radz. 15—19.

**Rajsk** Był sobie glina — fr. Julka, Julia, Juleczka — NRD 15—19.

## Наша галерэя



І. Стасевіч. Шахцёры Салігорска.

B.Z.Graf. Zam. 2827 F-4

# Новая публікацыя аб Белавежы

Нядаўна паявілася ў продажы публікацыя „Белавежа“ на польскай, рускай, англійскай і нямецкай мовах. Выдала яе Краёвая выдавецкая агенцыя (КАВ) па заказу Ваяводскага цэнтра турысцкай інфармацыі ў Беластоку.

Аўтар дац. др Аляксандр У. Сакалоўскі, кіраўнік лабараторыі аховы прыроды ІБЛ у Белавежы, спакусіўся прадставіць Белавежскую пушчу ў невялічкай брашурцы, з прызначэннем для сярэдняга экскурсанта ці турыста, якія ў звыш 100-тысячным ліку штогод наведваюць жамчужыну еўрапейскіх пушчаў. І гэта яму ў асноўным удалося. У асноўным таму, што выдавецтва не прыклала ўсіх старанняў, каб выпусціць у свет публікацыю, дасканалую ва ўсіх адносінах. Але аб гэтым пазней...

Сваю публікацыю пачаў А. У. Сакалоўскі раздзелам аб „сэрцы Пушчы“ — Белавежы, яе месцазнаходжанні, насельніцтве, гісторыі (звыш 300-гадовай), цэнтрах адміністрацыйных, турысцкіх, навуковых, абслугоўвання. Увогуле запрапанаваў турыстам шлях па цэлым пасёлку, растлумачваючы, дзе і на што варта звярнуць увагу.

Наступны раздзел прысвечаны самой Белавежскай пушчы. Аўтар у кароткіх, ды змястоўных словах знаёміць нас з яе размяшчэннем і тэрыторыяй, гісторыяй, рэльефам, геалагічнай структурай, водамі, кліматам, флорай і фаунай. Далейшыя раздзелы прадстаўляюць Белавежскі нацыянальны парк і аб'екты аховы прыроды, якія знаходзяцца ў гаспадарчай частцы пушчы, а таксама апісанне чатырох найпапулярнейшых шляхоў. Брашуру заканчваюць практычныя інфармацыі тыпу: дзе можна паабедаць, дзе пераначаваць (пададзены вуліцы, нумары дамоў і тэлефонаў).

Тэкст, які змяшчаецца на звыш 20 старонках, дапаўняюць устаўкі з каляровымі здымкамі Р. Чарвінскага, В. Дудзінскага, С. Мароза, Я. Тымінскага, З. Удавінскага і картамі М. Лакомай і З. Ветэскі. Што датычыцца здымкаў і іх падбору, дык, здаецца, выдавецтва ўзяло што было пад рукой. І так, пакупнік брашуры будзе аглядаць хвойныя шышкі, анемону, барсука, лілею, ягады ажыны... Як быццам у пушчы нічога цікавейшага не было. Нельга таксама пахваліць карты. Надта яны схематычныя, а ў некаторых месцах проста недакладныя. Асабліва выразна гэта відаць у ваколіцы ставаў.

І некалькі слоў аб версіях на замежных мовах. Найлепш выпала англійская, крыху горш нямецкая, а зусім кепска руская. Аўтар рускага перакладу Святаслаў Спальле дрэнна зрабіў, што назвы мясцовасцей, раёнаў вырашыў пісаць фанетычна. Такія мясцовасці, як Белавежа, Гайнаўка і шэраг іншых, здаўна маюць устаноўлены правапіс на рускай мове. На жаль, кепскі правапіс — гэта не адзіны закід у адрас рускага перакладу. С. Спальле патрапіў з ягад ажыны зрабіць гародніну, з запаведніка дубоў — запаведнік ліп... Зрэшты, даруйце вылічанне ўсіх памылак.

Нягледзячы на спамянутыя недахопы, публікацыя А. У. Сакалоўскага разыйдзецца вельмі хутка. Няхай толькі прыйдзе турысцкі сезон. Пры недахопе публікацый аб Белавежскай пушчы на замежных мовах, свежа выдадзеная кніжачка з'яўляецца сапраўдным скарбам. Яе тыраж: польская версія — 25 тыс., замежныя па 5 тыс. кожная. Цана аднаго экземпляра — 12 зл.

**П. Байко**

## Ад родных ніў

### ВОСЕНЬ

*Прышла восень залатая,*
*Птушкі ў лесе менш спяваюць.*
*Сумна робіцца лясам,*
*Халадней ўжо будзе нам.*

*Восень хоць халаднавата,*
*Ды яна ва ўсё багата —*
*Збожжа клуні поўныя*
*І каморы роўныя.*

*Гаспадыня робіць вэкі,*
*На зіму запасік нейкі.*
*Дзеці цешацца, смяюцца,*
*Што зімою аб'ядуцца.*

*Гаспадарык жыта сее,*
*Спрытна, гладка, як умее.*
*Бульбу з поля ён збірае,*
*Капцы ёю напаўняе.*

*Бо што восенню нагою,*
*То зімой возьмеш рукою.*
*Усе запасы ужывай,*
*Шчодру восень ўспамінай!*

**Люба Саковіч**
Юшкаў Груд

# Нарва



Рэдка якая мясцовасць на Беласточчыне спавіта столькімі легендамі, як прысеўшае на левым, высокім беразе ракі, мястэчка Нарва. Тут што ні крок — то красачнае паданне.

Радавітыя нараўцы пераканаsuccessively, што іхняя мясціна ў далёкім мінулым была абшырным, рухлівым ды заможным горадам, які прасціраўся на некалькі вёрст наўкола, а самыя баявыя з іх цвердзяць, быццам таямнічы змуршэлы каменны мур у нетрах Лядскай пушчы — гэта не што іншае, як колішняя абаронная сцяна Нарвы. Калі плуг якогакалечы селяніна з суседніх вёсак Макаўка ці Храбустоўка наткнецца на даўнюю крушню палявога каменя, усе адразу бачыць у ёй рэшткі колішняй вуліцы горада Нарвы, што некалі займаў і гэтыя абшары. Некалькі вёрст уверх па цячэнню ракі Нарвы, на самым яе беразе, узвышаецца курган, пра які тут поўна розных чутак. Адны кажуць, што ён з'явіўся на месцы праваліўшайся пад зямлю царквы, і калі ў святочны дзень прыкласці да кургана вуха, дык можна пачуць, як пад зямлёю звоняць царкоўныя званы. Другія цвердзяць, што курган быў насыпаны на магіле яцвяжскага князя, які загінуў у баі з мужнымі русамі. Воі прынеслі яго цела і пахавалі тут, на высокім беразе блакітнаводнай Нарвы. Разам з нябожчыкам паклалі ў магілу незлічоныя багацці, награбленыя ў здабытых імі рускіх гарадах. На магіле ж князя быў насыпаны курган. І сыпалі яго воі, носячы зямлю ў сваіх стальных шаломах. Трэція ж пераконваюць, што ў велікодную раніцу, калі на ўсходзе, па-над вершалінамі елак і дубоў Лядскай пушчы, пачынае іграць веснавое сонейка, каля кургана, з глыбокага нараўскага віру, выплывае на сундуку з залатымі манетамі сама каралева Бона. З'яўляецца яна толькі самаму чэснаму, самаму справядліваму і самаму добраму чалавеку, а ва ўзнагароду за яго чэснасць, справядлівасць і дабрату вымае з сундука і кідае ў яго бок цяжкі залаты талар. Манета зіхаціць у палёце чароўным агнём, але не далятае да берага і падае ў ваду, не трапіўшы ў рукі абдараванага...



*У засені дрэў-старэчаў узвышаецца блакітная царква.*

І дрэмле маленькае мястэчка Нарва над быстраводнаю ракой, перагортваючы ў памяці безліч легендаў, паданняў і сказаў пра сваю колішнюю вялікасць.

**І. Снарскі**
Фота аўтара



*Званы ў колішняй касцельнай званіцы выклікаюць даўнія ўспаміны.*



*А дрэвы-волаты з Л ядскай пушчы, што памятаюць колішнюю вялікасць горада Нарвы, бязлітасна паласуе маладушны тартак.*



*Сучаснасць умацоўваецца ў Нарве абшырнымі і светлымі дамамі ПОМ-аўскага пасёлка.*

# Пажар не выбірае ахвяры

На беластоцкай вёсцы выбухае многа пажараў. Толькі за мінулыя месяцы гэтага года згарэла звыш 120 будынкаў коштам 25 мільёнаў злотых. Агонь знішчыў шмат памяшкальных будынкаў, інвентарскіх аб'ектаў, стадолаў, нават са збожжам з сёлетніх ураджаяў. У верасні ў Тапалянах гарэла аўчарня, якая належыць да спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Міхалове. А ўсё таму, што ў будынку пераховувалася сена, якое ўтыкалася ў замацаваную пад дахам электраўстаноўку. Калі ўспыхнула электрычная іскра, пачаўся лікі пажар. Страты — на суму 700 тысяч злотых. У вёсцы Русакі каля Монек у нашым ваяводстве за адзін раз згарэла чатырнаццаць гаспадарчых будынкаў, у тым ліку пяць стадолаў з сёлетнімі ўраджаямі і сельскагаспадарчымі машынамі. У Генрыкове каля Беластока згарэла стадола са збожжам, гаспадарчы будынак ды 3,5-гадовае дзіця. Пажар выклікалі пакінутыя без апекі дарослых дзеці, якія гулялі запалкамі. Дзве клуні з сёлетнім ураджаем ды сельскагаспадарчымі машынамі згарэлі ў Вейках (гміна Гарадок). Страт было на суму 120 тысяч злотых. Тры стадолы згарэлі ў вёсцы Трывежа (гміна Гайнаўка). Тут страт было на звыш дзвесце тысяч злотых. Згарэла клуня ў вёсцы Драгле (гміна Саколка). Страт было на суму пяцьдзесят тысяч злотых. Дзве стадолы згарэлі ў вёсцы Навадворцы (гміна Васількаў). У іх было сабрана ўсё збожжа. Страты — на трыста тысяч злотых. Пералік пажараў можна было б яшчэ прадаўжаць. Запоўненыя збожжам клуні, да таго хлявы, стагі саломы і сена гарэлі ў Дабжыневе Вялікім, Няросьне, Геніюшах, Дабжынёўцы і другіх вёсках ды далёкіх калоніях.

Якія вывады? У шматлікіх выпадках самі дарослыя неасцярожна абыходзяцца з агнём. Пажары ўзнікаюць ад дрэнна праведзенай электраўстаноўкі. Часта выклікаюць іх пакінутыя самапас дзеці, ім жа гульня з запалкамі вельмі да спадобы. Гараць клуні, хлявы з хатняй жывёлай, стагі збожжа і сена. Пажар не выбірае ахвяр... (ця)

(Працяг са стар. 1)

## Што будзе ў Міхалове?

павялічваючы гадоўлю. Цяпер гмінная сельскагаспадарчая служба прыкладае ўсе намаганні, каб у кожнай вёсцы ў абедзвюх гмінах было прынамсі па адной выспецыялізаванай і высокатаварнай гаспадарцы. ПГР будзе каапераваць з сялянамі ў гадоўлі. Праўда, і гэтага гмінныя ўпраўленні зусім не ўтойваюць ад сялян, што нядбайна і абыякава гаспадарыць, не дабіваючыся належных ураджаяў і гадоўлі, зямельныя ўгоддзі будуць адабраны ў прымусовым парадку. Зямля мусіць радзіць так, каб з кожнага гектара маглі пракарміцца двое грамадзян нашай дзяржавы!..

І каб задаволіць гэтую патрэбу, міхалоўскі ПГР ужо прыступіў да інтэнсіўнага загаспадарвання сваіх угоддзяў. Гэтай восенню ён ужо зараўў і звапнаваў каля 400 га пад вясеннія пасевы аўса, пялюшкі, кармавога лубіну і іншых раслін.

Міхалоўскі сельскагаспадарчы гігант пачаў ставіць свае першыя ўпэўненыя крокі.

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 1)

## І ў песні і ў працы

мі патрэбная, бо многа з нашага сяла і моладзі і дарослых штодня ездзіць у Бельск і Беласток у школу, на работу, па розных справах. Але не ўсім гэта падабалася, некаторыя хацелі б, каб гэты грамадскі грош хутчэй на спіртное перавесці ды ва ўласны рот пераліць. І так улавілі зручны момант, калі я быў у святліцы, акружылі ды з кулакамі да мяне: „Давай трыццаць тысяч! — крычаць. — Гэта нашыя грошы, што нам уздумаецца, тое з імі і зробім...“ Я давай тут іх пераконваць, тлумачыць, а яны прыціснулі мяне столікамі да сцяны і соваюць кулакамі, куды папала. Раптам я чую: калена ў мяне — хрусь!.. Што ж тут далей расказваць: пераламалі мне нагу ў калене. Цэлы месяц праляжаў я ў шпіталі і вось ужо год не здымаю бандажу. Нічога цяжкага падняць нельга, як пахажу дзень за плугам ці бараною, дык зусім без нагі астаюся. А гэта ж у гаспадарцы бяда!..

— Але неяк радзіце?

— Мушу, жыць жа трэба! Гаспадарка ў мяне невялікая, усяго восем гектараў. Трымаю тры штукі дойных кароў, прадаю дзяржаве ў год шэсць-сем кормнікаў, кантрактую тры гектары жыта. Але хацелася б і крыху шырэй разгарнуцца. Арганізавалі мы невялікі вытворчы калектыў і за 45 тысяч купілі малацільны агрэгат. Добрая рэч! І сабе памалацілі і іншым, людзі ў сяле аж сварацца за нашу малацілку — кожны цягне яе да сябе. Цяпер прыгадзіўся б нам трактар з камплектам машын. Ён бы дапамог членам нашага вытворчага калектыву ў палявых работах на ўласных гаспадарках, і можна было б узяць якіх-небудзь 20-30 гектараў з дзяржаўнага фонду, дзеля апрацоўкі. У нашай вёсцы ёсць 80 га ў ПФЗ. Мы б спачатку заняліся вырошчваннем збожжа, а потым і на гадоўлю ўбойнай ялавічыны перайшлі б.

Розныя шляхі-дарогі былі ў спевакоў з Дубяжына. Спачатку спявалі яны ў бельскім беларускім хоры, праз некалькі год склалі свой самастойны калектыў, цяпер жа аб'ядналіся з дзявочым калектывам з Плёскаў. Не мала было і дырыжораў: Я. Шурбак, М. Артышэвіч і іншыя, цяпер з імі працуе П. Нявінскі. І трэба прызнаць, што з кожным годам мастацкі ўзровень „Дубочкаў“ павышаецца, а іх папулярнасць на Беласточчыне расце. І гэта вельмі цешыць М. Раманюка. Сваю ўлюбёнасць да спеваў ён перадаў і жонцы Анне, якая ўжо тры гады спявае ў калектыве, і дачцы Крысціне, што таксама ахвотна ўдзельнічае ў ім. Малодшыя два сыны яшчэ вучацца ў пачатковай і сярэдняй школах, але калі стануць дарослымі, бадай, таксама будуць наследаваць старэйшых і ў працы і ў песні.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Ян Трафімюк

Селянін Ян Трафімюк са Старога Беразова (гміна Гайнаўка) вядомы перш за ўсё як вопытны жывёлавод. Гадуе ён шаснаццаць кароў галандскай пароды. Некаторыя даходзяць да 500, а нават і 700 кілаграмаў вагі. У мінулым годзе і сёлета прадаў ён на далейшую гадоўлю дзве пародзістыя каровы: адну за 18 тысяч злотых і другую за 23 тысячы злотых. Купіла іх спецыялістычнае гадоўлянае прадпрыемства з мэтай паляпшэння пароды кароў. Прадае таксама шмат малака.

Працавіты стараберазоўскі жывёлавод механізуе ўсе працы на сваёй гаспадарцы. У яго свае сельскагаспадарчыя машыны. Ён ужо пяты год карыстаецца ўласным трактарам, мае аўтамашыну „Тарпан“.

Ян Трафімюк — член ПАРП. Ён узнагароджаны медалямі за баявыя заслугі і значком „Заслужаны Беласточчыне“.

Сын Яна Трафімюка Аляксандр узяў прыклад таксама са свайго бацькі. Пакуль што ён вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Бельску.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Што новага ў Васількоўскай гміне?



*Стары Васількоў.*

### НЕТЫПОВАЯ

Васількоўская гміна вельмі нетыповая. Займае плошчу ў 12 706 гектараў і налічвае 1 254 гаспадаркі. Толькі з працы на гаспадарцы ўтрымоўваецца не больш 20 сем'яў. Рэшта гаспадарак належыць да так званых сялянска-рабочых. Усе гаспадаркі невялікія — у сярэднім 4-, 6-гектаровыя. Зямельныя ўгоддзі (іх усіх тут збіраецца 5 867) у асноўным надаюцца толькі пад жыта ды бульбу.

### ПРАДУКЦЫЙНЫЯ КАЛЕКТЫВЫ

Адзін з першых у гміне жывёлаводчы калектыў заснаваў Тадэуш Рапіцкі са Студзянкаў. Ён узяўся за гадоўлю букатаў. Мае іх некалькі дзесяткаў штук. Зараз калектыў заканчвае пабудову вялікай аборы.

20 000 курэй пачаў гадаваць жаночы калектыў у Ярашоўцы. Калектыў гэты ў складзе: Генрыка Даманеўская, Цэцылія Арцішэўская, Барбара Часун будуюць яшчэ адзін вялікі куратнік на 10 тысяч курэй.

Авечкагадоўляй займаецца калектыў: Анна Болбат, Марыя Пастэрняк і Рэгіна Ярашэвіч, таксама з Ярашоўкі.

Вясною гэтага года стварыўся жывёлагадоўчы калектыў у вёсцы Дамброўкі, непадалёку ад Васількова. Сяляне: Валянцін Савіцкі, Эдвард Дубейка і Раман Аніхімюк завялі авечак.

Калектыў па вырошчванні гародніны стварыўся ў Студзянках. Гэтай карыснай справай заняліся: Ян Альховік, Мар'ян Кардынскі і Юзэф Альховік. Усе разам яны будуюць вялікую цяпліцу.

У самім Васількове будзе створаны яшчэ адзін калектыў, які зоймецца вырошчваннем пячурыц.

### ВАСІЛЬКОЎ ПРЫГАЖЭЕ

Шасцітысячнае мястэчка Васількоў хутка разбудоўваецца. Знікаюць нізкія драўляныя хаты, а на іх месцы растуць шматпавярховыя блокі, прыгожыя мураваныя дамы і шматлікія аб'екты публічнага карыстання. Будуецца вялікі спартыўны стадыён. Грамадскім чынам будуецца стражацкая раміза. Апрача таго, у гэтым годзе пачалася пабудова крамы, а ў наступным годзе будзе пабудаваны рэстаран, бар і кавярня — на дзвесце месц.

### ВАСІЛЬКОЎ — КУРОРТ

У Васількове над рэчкаю Супрасль пабудаваны курортныя аб'екты: басейны, кампінговыя домікі, пазычальня байдарак і іншага воднага абсталявання. Ёсць таксама на месцы рэстаран пад назвай „Пляжовы“. Асабліва летам ахвотна праводзяць тут свой вольны час жыхары недалёкага Беластока. У недалёкай будучыні будзе адкрыты падобны цэнтр адпачынку ў Асовічах.

### ПАЧЫНЫ ЖЫХАРОЎ ВАСІЛЬКОВА

Жыхары Васількова вядомыя на ўсю акругу з-за актыўнага ўдзелу ў грамадскіх пачынах, якіх у гэтым годзе выканалі яны на звыш 2,5 мільёнаў злотых.

### МАДЭРНІЗАЦЫЯ ДАРОГ

У гэтым годзе была закончана пракладка асфальтнага палатна на не надта добрай дагэтуль жвіровай дарозе з Васількова ў Дамброўкі на трохкіламетровым адрэзку. Апрача таго, адрамантаваны брук на вуліцах мястэчка: Супрасльскай, Гайнай і Э. Плятэр. Побач бруку на іх пракладзены тратуары для пешых.

**Я. Цялушэцкі**




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА



### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XXIV

**Заканчэнне.** Беларускай літаратуры перыяду „Нашай нівы“ не чужы быў дух людаманіі. У людаманіі заўсёды праяўляюцца элементы культу народнай дабраты, высакароднасці, працавітасці, сумленнасці. Такая філасофія была характэрна для ўсіх народніцкіх палітычных і літаратурных напрамкаў. Людаманія характэрна для інтэлігентаў або шляхцічаў, якія звязалі свой лёс з народам і, імкнучыся забыць аб сваім сацыяльным паходжанні, стараліся ахоўваць усё, што было звязана з іх першабытным класам, і славіць усё, што належала класу, да якога яны далучыліся. Сказанае падыходзіць да ўсякага роду неафітаў і рэнегатаў нацыянальнага, палітычнага, рэлігійнага характару. Такія людзі ўсю злосць і нянавісць кіруюць супроць таго, што пакінулі, а ўсю любоў, захапленне, культы — да таго, што выбралі і прынялі.

Магло б здавацца, што Паўловіч, інтэлігент, чыноўнік, мог бы смела атоесамлівацца, так як гэта рабілі тысячы тагачасных беларусаў-інтэлігентаў, з польскай або з рускай нацыяй. Паўловіч, аднак, выбраў іншы шлях. Далучыўся да нашаніўскай ідэалогіі, якая была па сутнасці сялянскай ідэалогіяй, хаця не чужыя ёй былі агульнанацыянальныя аспірацыі. Так ці інакш, Паўловіч амаль усю сваю творчасць прысвяціў сялянскаму жыццю, сялянскай псіхалогіі, сялянскім надзеям. І гэта быў свайго роду народніцкі акт. Аднак у адрозненне ад класічных народнікаў Паўловіч не пайшоў па лініі людаманскіх культаў. Зацікавіўшыся беларускім селянінам, далучыўшыся да яго жыцця, да яго мовы, не думаў нават ідэалізаваць яго маралі, яго прывычкі, яго побыт. Наадварот, прыняў крытычную „драпежна-агрэсіўную“ паставу ў адносінах да селяніна. Ці гэта значыць, што не бачыў пазітыўных з'яў у жыцці і псіхалогіі селяніна? Бачыў. Аднак, мабыць, рашыў, што гэтымі з'явамі лепш, чым ён, займаюцца іншыя беларускія пісьменнікі. Выкарыстоўваючы схільнасці свайго характару і спецыфіку свайго літаратурнага таленту, звярнуў ён увагу не на тое, што ў жыцці станоўчае, прыгожае, альтруістычнае, разумнае, а на тое, што адмоўнае, брыдкае, эгаістычнае, дурное. У гэтым якраз і праяўляецца смеласць пісьменніка.

На жаль, амаль усе нацыі, якія ставяць першыя крокі на шляху самастойнага жыцця, адносяцца з выключнай уражлівасцю, з незразуменнем, а нават нянавісцю да кожнага крытычнага слова, накіраванага ў іх адрас. Такая схільнасць была характэрнай і для свядомых беларусаў у перыяд нашаніўскага нацыянальнага адраджэння. Зрэшты, ці толькі для беларусаў і толькі ў мінулым? Мабыць, і сёння нямала ёсць закаханых у сябе народаў, якія ўсякую крытыку трактуюць як злачыннасць. У гэтым, зразумела, праяўляецца не сіла, а слабасць.

З якой жа пашанай трэба глянуць на гумарыстычную плынь у творчасці Ядвігіна Ш. і Якуба Коласа, якія не баяліся выставіць на публічны смех усё тое, што, на іх думку, у псіхіцы і побыце беларуса было недарэчлівым, дрэнным, хворым. Да іх трэба далучыць і Альберта Паўловіча.

Здаровы смех з самога сябе, з свайго грамадскага класа, з сваёй нацыі вынікае з смеласці і веры ў тое, што крытыкаваны пераможа свае недахопы і стане прыгажэйшым і больш дасканалым. Ідэалізатары і лакіроўшчыкі заўсёды шкодзілі нацыі, крытыкі ёй памагалі. Гледзячы ў гэтым аспекце на Паўловіча, нельга не залічыць яго творчасць у рэестр здабыткаў беларускай літаратуры і беларускай гісторыі.

# „САВЕЦКАЯ І ПОЛЬСКАЯ ЗЯМЛЯ — ГЭТА МАЯ ЗЯМЛЯ...“

Нядзеля, чатырнаццатага лістапада бягучага года — гэта яшчэ адзін дзень, які ўпісаўся ў памяць жыхароў Бельска і ў школьную хроніку белліцэя. Менавіта ў гэты дзень горад наведаў прадстаўнік савецкага пасольства ў Варшаве Іван Яўфімавіч Скарбавенка, якому спадарожнічаў кіраўнік аддзела культуры і прапаганды ГП ТППР Пятро Пачыкоўскі. У плане былі намечаны дзве сустрэчы: са школьнай моладдзю і з жыхарамі Бельска. Першая адбылася ў будынку Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Бранціслава Тарашкевіча. Нягледзячы на тое, што была нядзеля — дзень вольны ад заняткаў, моладзь сабралася амаль поўнасцю. Настаўнікі таксама прыбылі. І вось а палове трэцяй пасля поўдня ў фізкультурную залу, якая залілася гарачымі апладысментамі, увайшлі госці і прыбыўшыя з імі сакратар ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу ў Беластоку Антон Гжэськевіч, І сакратар гарадскога камітэта ПАРП ў Бельску Мікалай Хурса і начальнік горада Ян Садоўскі. Пасля шчырых прывітальных слоў, сказаных ад імя школы дырэктарам Аляксеем Карпюком, выступіў прадстаўнік савецкага пасольства ў Польшчы І. Я Скарбавенка.

— Мне надта цяжка гаварыць, бачачы перад сабой залу, запоўненую маладымі людзьмі, — пачаў ён сваё выступленне. Перад вачыма ўстае былое. Прыпамінаюцца гады маёй працы і мільгаюць, быццам кадры з фільмаў, успаміны.

І нічога дзіўнага. Зараз жа пасля вайны быў ён інспектарам сярэдніх школ і яму часта даводзілася сустракацца з моладдзю і настаўнікамі. Любіў ён сваю працу. Любіў прабываць з вучнямі. Але адначасова не давала спакою перарваная вайной вучоба ў эканамічным інстытуце. Так хацелася яго закончыць. І пайшоў вучыцца. Потым паступіў у вышэйшую дыпламатычную школу, пасля заканчэння якой быў накіраваны на работу ў дыпламатычных пляцоўках. У Польшчы ўсяго толькі два месяцы.

— З вялікай радасцю прыняў я рашэнне аб накіраванні мяне ў Польшчу, — прадаўжае сваё выступленне. — Савецкую і польскую зямлю лічу я сваёй зямлёй. Там я нарадзіўся, а тут засталася частка майго жыцця.

Трэба сказаць, што І. Я. Скарбавенка, уваходзячы ў састаў І-ай танкавай арміі, прымаў удзел у вызваленні нашай краіны ад гітлераўскіх захопнікаў. Змагаўся за нашыя гарады, між іншым, за Варшаву і Познань. І таму яму Польшча блізкая, як свая айчына.

Доўга яшчэ гаварыў наш госць. Падкрэсліваў ён ветлівасць і шчырасць польскага народу. Адказваў на шматлікія пытанні вучняў. Але час даваў знаць аб сабе. У доме настаўніка, дзе мела адбыцца сустрэча з жыхарамі горада, ужо таксама чакалі. І як толькі госці ўвайшлі ў залу, дзе вучні бельскіх школ падрыхтавалі выстаўку пладоў перапіскі з савецкімі сябрамі, дзіцячы танцавальны калектыў, што дзейнічае пры Бельскім доме культуры, прывітаў іх рускім народным танцам. Захапленням не было канца. Потым выступіў харавы калектыў „Ютшэнка“ з медліцэя. І зноў пачалася размова, дзяліліся ўражаннямі, успаміналі перажытае. Зноў пасыпаліся пытанні. А каб да канца ўтрымаць усё ў той атмасферы, якую запачаткавалі рускім народным танцам, на стале паявіліся самавары з гарачым чаем.

**М.Шаховіч**

**Ф·А·**




*Ой ты, дубэ кундж*
*шырокі ліст на тоб*
*Ой ты, хлопчэ мол*
*дурны розум пры*
*Ой, ты, хлопчэ мол*
*дурны розум пры т*
*Ой ты кляўса, прыс*
*возмэш мэнэ за жон*
*а тэпэр мэнэ кідаеш*
*як вечную сіроту.*
*А тэпэр мэнэ кідаеш*
*як вечную сіроту.*
*Вышчыкну я з рожы квіетку,*

* Слова незразумелае.

Ад Зінаіды Самойлюк, з 1898 года нараджэння, вёска Янова гм. Нарва, запісаў 1 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



Добра, што скончылася толькі так... **Фота Я. Цялушэцкага**

## Нацыянальная палітыка II Рэчыпаспалітай

Адносіны да нацыянальных меншасцей, на якія прыходзілася прыблізна трэцяя частка ўсяго насельніцтва міжваеннай польскай дзяржавы, былі важнай сферай яе ўнутранай і замежнай палітыкі. Не выпадкова выклікаюць яны значнае зацікаўленне сучасных польскіх гісторыкаў.

Істотны ўклад у навуковую распрацоўку гэтых пытанняў уносіць доктарская дысертацыя Андрэя Хайноўскага „Канцэпцыі нацыянальнай палітыкі польскага ўрада ў 1926-1939 гг.“, апрацаваная ў Інстытуце гісторыі Варшаўскага універсітэта пад навуковым кіраўніцтвам дацэнта Андрэя Гарліцкага. Яе публічная абарона адбылася 6 лістапада 1976 г.

У сваёй абшырнай працы доктар А. Хайноўскі разглядае пытанне нацыянальных меншасцяў у палітыцы польскіх урадаў дасанацыйнага перыяду (1921-1926 гг.) і іх спробы пошукаў праграмы нацыянальнай палітыкі. Асноўная частка працы прысвячаецца аднак палітыцы санацыйных урадаў, якая прадстаўлена аўтарам у чарговых раздзелах: „Уціхаміранне без рэформаў“, „Спробы пагаднення“ і „Праграма ўмацавання польскасці Рэчыпаспалітай“. Аўтарам выкарыстаны багатыя архіўныя матэрыялы, даваенныя і пасляваенныя публікацыі, а таксама ўспаміны, карэспандэнцыя і іншыя крыніцы.

На фоне агульнай нацыянальнай палітыкі доктар А. Хайноўскі разглядае ўрадавыя канцэпцыі ў адносінах да беларускага насельніцтва былых „Усходніх крэсаў“, прычым улічвае палітычныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя, асветныя, веравызнаўчыя і іншыя фактары, якія ўплывалі на дзеянні кіруючых колаў II Рэчыпаспалітай. Цікава заўважыць, што ў гэтай частцы сваёй дысертацыі аўтар выкарыстаў творчыя здабыткі вядомай нашым чытачам Аляксандры Бергман, якія датычаць Беларускай сялянска-работніцкай грамады і іншых старонак заходнебеларускай гісторыі.

**Ю. Туронак**

## ШЛЯХАМ ДРУЖБЫ

У верасні адбылася экскурсія на караблі „Мазоўша“ ў гарады Талін і Ленінград. Удзел прынялі актывісты ТППР. Прыгожы горад Талін, аднак удзельнікі захапляліся найбольш Ленінградам. Наведалі Эрмітаж, у якім 2 мільёны 700 тысяч экспанатаў, змешчаных у 400 залах. У год праходзіць праз яго 3,5 мільёна людзей з усяго свету.

Наведалі Петрапаўлаўскую крэпасць, Петрапаўлаўскі сабор, Піскарэўскі могільнік, дзе на 26 гектарах пахавана паўмільёна людзей, загінуўшых у Ленінградзе ў час блакады, Петрадварэц з яго бліскучымі фантанамі, крэйсер „Аўрора“ і многа іншых цудоўных месц. А чаго варта адна Нява з яе 300 мастамі, у тым ліку 21 узводным. Ленінград расположаны на 40 астравах. Многа можна пісаць аб прыгажосці будоўляў, помнікаў, цэркваў, тэатраў, вузаў. Але ўсё тое, што бачылася, не месціцца ў галаве.

**Я. Бандарук**

# З ЖЫЦЦЯ КЛУБА БГКТ У ВАРШАВЕ

### У ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ

20.X.76 г. у памяшканні таварыства на Сенатарскай адбылася сустрэча варшаўскага актыву БГКТ са студэнтамі аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, якое адзначае дваццатую гадавіну сваёй працы.

В. Швед расказаў прысутным аб дзейнасці варшаўскай арганізацыі БГКТ на працягу мінулага дваццацігоддзя. Звярнуў ён асаблівую ўвагу на той факт, што вялікай заслугай аддзела Беларускага таварыства ў Варшаве, а асабліва яго тагачаснага старшыні Юрыя Туронка, былі захады пры стварэнні аддзялення беларускай філалогіі.

Др А. Баршчэўскі, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі, падсумаваў дасягненні кафедры на працягу дваццаці гадоў яе працы. Падкрэсліў ён асабліва ўклад працы праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай як у арганізаванні кафедры, так і ў яе ўмелым шматгадовым навуковым кіраўніцтве. Кадравыя цяжкасці кафедры ў першыя чатыры гады яе працы дапамагалі ліквідаваць навуковыя працаўнікі з Савецкай Беларусі — праф. праф. М. Бірыла, В. Тарасаў, А. Жураўскі і М. Лазарук. Выкладалі яны на кафедры беларускую мову і літаратуру.

### КОЛАСАЎСКІ ВЕЧАР

27.X.76, адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны адзначэнню дваццатай гадавіны смерці вялікага класіка беларускай літаратуры Я. Коласа.

Др А. Баршчэўскі выступіў са змястоўным дакладам „Жыццёвы і літаратурны шлях Я. Коласа“.

Студэнткі аддзялення беларускай філалогіі чыталі ўрыўкі з паэм Я. Коласа „Новая зямля“ і „Сымон-музыка“, а таксама вершы паэта дакастрычніцкага і савецкага перыядаў.

### СУСТРЭЧА З НІНАЙ ТАРАШКЕВІЧ

3.XI.76 г. актыў клуба БГКТ у Варшаве сустрэўся з Нінай Аляксандраўнай Тарашкевіч, жонкай вядомага беларускага грамадска-палітычнага дзеяча Браніслава Тарашкевіча.

З інфармацыяй аб жыццёвым шляху, палітычнай, навуковай і літаратурнай дзейнасці Б. Тарашкевіча выступіў В. Швед.

Н. Тарашкевіч падзялілася ўспамінамі аб сваім мужу з маскоўскага перыяду яго жыцця і адказала на шматлікія пытанні слухачоў.

### У 59-УЮ ГАДАВІНУ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

10.XI.76 г. адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 59-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

В. Швед выступіў з дакладам, у якім падкрэсліў сусветнае гістарычнае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прадставіў ён таксама вялікія дасягненні СССР, асабліва ў галіне эканомікі, і перспектывы ўсебаковага развіцця Савецкага Саюза ў юбілейную дзесятую пяцігодку.

У заканчэнні свайго выступлення В. Швед ахарактарызаваў удзел беларусаў з Беласточчыны ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, падкрэсліваючы асаблівыя заслугі ў барацьбе за вызваленне народу Герояў Савецкага Саюза маршала СССР Васіля Сакалоўскага з вёскі Козлікі і генерала Аляксандра Вашкевіча з Белавежы. Сваё выступленне В. Швед закончыў вершам, прысвечаным памяці былога матроса „Аўроры“, жыхара вёскі Новае Беразова, які за свой удзел у рэвалюцыі атрымаў ад урада СССР высокую ўзнагароду — Ордэн Леніна.

Урыўкі з паэмы Ул. Маякоўскага „Савецкі пашпарт“ па-мастацку выканаў Я. Валюкевіч.

### ЛІТАРАТУРНАЯ ДРУЖБА

17.XI.76 г. на Сенатарскай адбыўся незвычайны паэтычны вечар. Слухачы захапляліся прыгажосцю чатырох славянскіх моваў. Выступалі паэты: польскі — Анджэй Занеўскі, рускі — Георгі Саргонін, украінскі — Астап Лапскі і беларускі — Віктар Швед.

А.Занеўскі чытаў свае вершы з паэтычных зборнікаў „Przed siebie“, „Front otwarty“, „Podróż“ і „Nowy port“, а таксама з падрыхтаванага да друку паэтычнага цыкла „Грэчаскія міфы“.

Г. Саргонін прадставіў вершы са зборнікаў „Северное“, „Стихи о Польше“, „Поэма юности моей“ і „Тройка“.

А. Лапскі захапіў слухачоў дасканалымі перакладамі на польскую мову вершаў украінскіх паэтаў XVII і XVIII стагоддзяў. Чытаў ён таксама свае вершы і мастацкую прозу.

В. Швед выступіў са сваімі новымі вершамі.

Праграму ўмела вёў А. Барскі, падкрэсліваючы асабліва яе сяброўскі, інтэрнацыянальны характар.

На заканчэнне вечара паэты падпісвалі слухачам свае літаратурныя зборнікі.

(В. Ш.)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Чын маладых

Нядаўна моладзь вёскі Тапаркі, згуртаваная ў СЗМП, выканала добрую работу: грамадскім чынам быў зроблены мосцік каля вёскі на дарозе, якая лічыцца самай важнай дарогай. На працу выйшла 20 хлопцаў.

Ініцыятарам гэтага карыснага чыну з'яўляецца Пётр Патэюк — старшыня мясцовай маладзёжнай арганізацыі. Жыхары вёскі вельмі задаволены і ганарацца сваёй моладдзю.

**М. Панфілюк**

## У асеннія вечары

Наступілі доўгія асеннія вечары. Людзі на вёсках маюць менш работы і ўдзень. Вядома, лета — гэта цяжкі сезон працы ў хлебаробаў. Цяпер можна больш пацікавіцца тэлевізарам, кніжкай, сустрэчай і лектарам.

У апошні час адбыліся першыя лекцыі ва універсітэтах для бацькоў. У гміне Нараўка іх аж 6. У Нараўцы, Семяноўцы даклады праводзяць лектары ТВП. У Луцэ, Ляшуках, Скупаве і Масеве лектары ТККС. Пераважна гэта настаўнікі, якія супрацоўнічаюць з бацькамі.

Першыя лекцыі выклікалі вялікае зацікаўленне. Асабліва многа моладзі прыходзіць у клуб „Рух". Настаўнікі выкарыстоўваюць тут свой вопыт, а таксама грамадска-выхаваўчыя фільмы. Даклады чытаюць такія вопытныя настаўнікі, як Аляксандр Харкевіч, Янка Ціванюк, Уладыслаў Кічко, Янка Савіцкі, Мікалай Варанецкі.

**Аляксандр Закройшчык**



### ДАРАГІ МАЙСТАР

Быў такі Антось Лапата,
Недалёка Фроські жыў.
Майстраваў ён нават святам,
Добры столяр з яго быў.

Ставіў клуні ён і хаты
У Шарнях, Саках, Спічках,
Знаў, што людзі тут багаты —
Многа грошай маглі даць.

Ставіў клуню ён у Косці
На мураваных стаўбах,
Шырынёй на метраў восем,
Даўжынёй на сорак пяць.

Ды нядоўга яе ставіў —
Адзін месяц майстраваў.
За работу ён прыбавіў,
Сорак тысяч аж узяў.

**Васіль Асеннік**

---

— Мы таксама партызаны, вашы таварышы, і змагаемся за агульную справу, — адказаў барадаты.

— Грабежнікі нам не таварышы. Хто вас паслаў, і чаму вы выступаеце ад імя партызан? — працягваў допыт Івашкевіч.

— Паўтараю: мы — партызаны. І ты, таварыш камісар, адкажаш за самаўпраўства, за арышт маіх хлопцаў, — стаяў на сваім барадаты.

Бандытаў даставілі ў лес. Дапытвалі іх Арлоўскі, Івашкевіч і Нікольскі.

— Мы партызаны. І тое, што нас арыштавалі свае — не толькі непаразуменне, гэта злачынства. За гэта вас па галоўцы не пагладзяць, — упарта стаяў на сваім барадаты.

Не ведаў Лявонцьеў, што Губач, адзін з яго падначаленых, каб выратаваць сваю скуру, паспеў ужо расказаць, што ніякія яны не партызаны. Расказаў Губач і пра тое, як яны палявалі за Шатыркам, а калі захапілі яго і пераканаліся, што паліцэйскі камендант з'яўляецца партызанскім разведчыкам, цэлы дзень пратрымалі ў лесе, а потым завезлі ў Ляхавічы.

Лявонцьеў перастаў упарціцца, як толькі даведаўся аб прызнанні Губача.

Камандаванне „Сокалаў" устанавіла, што захопленая група — не проста бандыцкая шайка. Гэта была адна з ілжэпартызаскіх груп, сфарміраваных і падрыхтаваных баранавіцкім аддзелам паліцыі бяспекі і СД па спецыяльным плане, які насіў кодавую назву „Вальдлойфер" — „Лясныя бегуны".

(Працяг будзе).

## Дзе знайсці

На працягу 9 дзён у лістападзе г.г. мне давялося быць у Беластоку, Гайнаўцы і Бельску. Маёй Меккай былі кнігарні, дзе прадаюцца падручнікі па беларускай мове. Чаму? Бо ў гэтым годзе так, як ніколі яшчэ, мае вучні не ўсе маглі іх набыць. Асабліва цяжка працаваць у другім класе, дзе трэба ўводзіць літары, а да таго яшчэ клас спалучаны з трэцім.

Што я знайшла ў кнігарнях у спамянутых мною гарадах? Беласток. Вуліца Кілінскага. Мілая пані прадаўшчыца інфармуе мяне, што актуальна мае „Каласкі" для другога класа, чытанку для III кл. і „Граматыку" Л. і М. Гайдукоў. На маё пытанне пра буквар адказала, што іх не атрымоўваюць ужо два гады.

Гайнаўка. Кнігарня ў рамонце.

Бельск. На полцы знаходжу чытанкі для II, III, IV і VI класаў, „Граматыку" Гайдукоў, „Граматыку" ч. I Андрэенкі і Яўневіча. Усё. На пытанне пра буквар прадаўшчыца адказвае, што запатрабаванне кнігарня складала, але кніжак не атрымала.

Апрача буквара асобны раздзел складаюць хрэстаматыі для VII і VIII кл. Выдадзеныя ў 1975 годзе тыражом па 2000 экземпляраў, зніклі адразу. Мо каты злізалі, як тую смятану!? Свайго часу спецы па статыстыцы падлічылі, што беларускую мову вывучае крыху больш 5 тысяч дзяцей. То колькі ў VIII класе, калі кніжак, выдадзеных у мінулым годзе, ужо няма? Зрэшты, няма іх ні старых ні новых.

На маю думку, трэба знайсці адказных за адпаведнае забеспячэнне вучняў падручнікамі па беларускай мове і паставіць ім дрэнныя ацэнкі так, як яны ставяць дрэнную ацэнку дрэннаму настаўніку.

**Настаўніца**

### БЫЛО ІНАКШ, ГЭТА ПРАЎДА...

Ёсць такія ў нас, што наракаюць на сваё жыццё, што калісь быццам было інакш...

Вядома, што калісьці было інакш. Радыёпрыёмнік яшчэ з навушнікамі і то быў рэдкасцю і навінкай, а што гаварыць пра важнейшае...

А сёння? Радыёпрыёмнік амаль у кожнай хаце, тэлевізары праз тры хаты, халадзільнікі, сціральныя машыны, а нават уласныя аўтамашыны — цяпер не навіна. Ясна, што калісьці было інакш... **(П. Д.)**

### НОВЫ ГОД ПАРТЫЙНАЙ АСВЕТЫ

Гмінныя ўлады ПАРП у Нараўцы многа ўвагі прысвячаюць пашырэнню ведаў сваіх членаў, а таксама актыву ЗСЛ, СЗМП. Рэалізаваць пастановы VII з'езду можа добра той актывіст і член партыі, які мае час на сістэматычную партыйную асвету.

Вось нядаўна адбылося адкрыццё новага навучальнага года партыйнай асветы. Кандыдаты партыі вывучаюць пастановы IV пленума ЦК, паўстанне сацыялістычнай сістэмы ў XX стагоддзі, стратэгію сацыялістычнага будаўніцтва ў Польшчы і інш. Бярэцца пад увагу зацікаўленне членаў тэматыкай. ПОП у надлясніцтве „Броўск" у Грушках, на цагляным заводзе ў Ляўкове, ЦПН, СОК у Семяноўцы, служба руху і фірма „Гартвіг" у Семяноўцы вывучаюць „Выбраныя праблемы грамадска-гаспадарчай палітыкі ПНР". ПОП пры гміне, ГС і вёскі Семяноўка, Лука і Старое Ляўкова выслухаюць даклады аб „Падставах сельскагаспадарчай палітыкі ПНР".

„Дакладчыкі выкарыстоўваюць часта фільмы, магнетафоны, дыяпазітывы і іншыя дапаможнікі. 30 асоб з кіраўнічага актыву гміны правядзе 9 сустрэч у вячэрняй школе гміннага актыву. Усе сустрэчы вядуцца пад кіраўніцтвам мясцовага актыву.

Гмінны цэнтр ідэйна-выхаваўчай працы распрацаваў усю асвету вельмі старанна. На сустрэчы кіруюць найлепш падрыхтаваных таварышаў. Працай цэнтра кіруе тав. Станіслаў Казбярук. Агульна адчуваецца, што выхаваўчая праца ў гміне пастаўлена сур'ёзна і правільна.

**Аляксандр Закройшчык**

## Сустрэча ў Крынках

З выпадку святкавання гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Крынках пабываў савецкі консул Іван Дзядзюля. Крынкі сардэчна і ўрачыста прывіталі госця ў суправаджэнні ваяводскіх улад. Консул падзяліўся з крынкаўцамі ўспамінамі з мінулых год і ўражаннямі са штодзённай працы ў нашай краіне.

На заканчэнне сустрэчы школьнікі дзякавалі госцю і ўручылі яму букет кветак. **Е. В.**

## На вуліцах у Бельску

На вуліцы Дубічы ў Бельску пражывае многа жыхароў. Усе яны вымушаны кожны дзень наведваць цэнтр горада, каб купіць ўсё патрэбнае. Бо на гэтай вуліцы да сённяшняга дня няма крамы. Маленькі кіёск у нязначнай ступені заспакойвае спажывецкія патрэбы жыхароў.

Але зменіцца і тут. У гэтым годзе пачалі будаваць на Дубічах спажывецкі павільён. Будынак ужо стаіць, а цалкам гатовы будзе ў наступным годзе.

**Мікалай Няплоха**

## „Нёман" у Гайнаўцы

Будучы на турнэ па Беласточчыне, беларускі ансамбль з Гродна „Нёман" наведаў і Гайнаўку. Канцэртны зал у „Гурніку" быў біткам набіты. Выступленне ансамбля, які налічвае 102 асобы, было прынята вельмі бурна, прынесла гайнаўчанам многа радасці і пакінула незабыўныя ўражанні.

Мы даведаліся, што праз год калектыў будзе святкаваць сваё 20-годдзе. Дарагія таварышы, Гайнаўка жадае вам вялікіх поспехаў і новай сустрэчы з намі. Вы сваім выступленнем здабылі ў нас многа прыяцеляў.

**Э. Вайсковіч**

## Гаспадараць супольна

Ваяводскі Саюз сельскагаспадарчых кааператываў ў Беластоку аб'ядноўвае 38 кааператываў. Яны знаходзяцца ў ваяводствах: Сувальскім — 4, Ломжынскім — 3 і Беластоцкім — 31. У гэтым годзе далучыліся новыя 3 кааператывы, а да канца года будуць зарэгістраваны далейшыя 3.

Кааператывы гаспадараць на 12 800 га зямлі, у тым ліку 2 300 га прынятай з ПФЗ ў 1976 годзе. Усе кааператывы вядуць гадоўлю. Многія займаюцца агароднінай і адкормам бройлераў і букатаў.

**Мікалай Няплоха**

## Лёгка пазваніць

Тэлекамунікацыйнае ўпраўленне ў Гайнаўцы, ідучы на руку жыхарам горада, паставіла на жыллёвым пасёлку № 4 на вуліцы Ліповай тэлефонную будку. Цяпер жыхарам пасёлка не трэба бегчы ў цэнтр горада, каб пазваніць куды трэба, можна гэта зрабіць хутчэй на месцы.

**Э. Вайсковіч**

## Настаўніцкая сустрэча

Настаўнікі беларускай мовы з былога Гайнаўскага павету правялі ў пачатку лістапада 1976 г. чарговае рабочае спатканне. Яно адбылося ў пачатковай школе ў слаўнай на Гайнаўшчыне вёсцы Арэшкава. Згодна з планам працы настаўнікі беларускай мовы вучыліся весці ўрокі праблемным метадам. Практычны ўрок ў VIII кл. на тэму „Уладзімір Ільіч Ленін на эміграцыі" (паводле верша „У Параніна") вяла настаўніца арэшкаўскай школы Ірэна Варанчук. А. Якубоўская — настаўніца пачатковай школы ў Нарве прачытала даклад, як весці ўрокі праблемным метадам. Затым настаўнікі падзяліліся заўвагамі на тэму ўрока і даклада. Візітатар беларускай мовы Беластоцкай школьнай акругі мгр А. Іванюк падкрэсліў, што ўрок быў вельмі змястоўны. На ўроку вучні выказаліся глыбокімі ведамі па гісторыі і мове.

У сваім выступленні старшыня гуртка самаадукацыі О. Гарустовіч з Дубін падкрэсліла, што ўрок быў вельмі цікавы. Настаўніца падкрэсліла на ўроку таксама і мясцовыя традыцыі: паказала постаці жыхароў Арэшкава і аколіцы, якія прымалі ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Аб ўроку выказаліся і настаўнікі А. Панфілюк з Дубіч Царкоўных, Я. Міранюк з Махнатага і Г. Тапалянская з Трасцянкі, а таксама настаўнікі арэшкаўскай школы, якія ўсе прысутнічалі ў гэтым спатканні.

У канцы сустрэчы ў вольнай дыскусіі настаўнікі скардзіліся на недахоп падручнікаў і праграм навучання, якія выдадзены, як часовыя, без вокладак, і страшэнна нішчацца. За цёплую сустрэчу ў Арэшкаве ад імя настаўнікаў сардэчна дзякую дырэкцыі школы і педагагічнаму калектыву прыгожай, чыстай і ўтульнай школы ў Арэшкаве.

**Га-Та**

## Хто паклапоціцца?

Калі пачынаецца зіма, жах ахоплівае кузаўцаў. Асабліва тых, што жывуць ад стараны Чаромхі. Кожны год ад рэчкі робіцца сапраўднае снежнае пекла. Тут столькі снегу надзьмухвае, што пехатою цяжка прайсці. Аб фурманцы і машыне няма што і гаварыць. Каб праехаць хуткай дапамогай да першых будынкаў, трэба аб'язджаць каля двух кіламетраў. А калі ўжо снег утопчацца, дык ляжыць ён да Вялікадня.

Здаецца, дробязь, а колькі нерваў напсуе гэты снег! Кузаўцы кажуць, што хапіла б паставіць драўляныя платы на полі на адрэзку 150 метраў — і праблема была б вырашана. Аднак няма каму паклапаціцца аб гэтым. Кузаўцы чакаюць, што гміна паможа. Ад непамятных часоў, гавораць яны, гміна ім нічога не зрабіла. Нават вуліцу не рамантавала, хоць абяцала зрабіць гэта ў 1975 годзе.

Сапраўды, узяць бы кузаўцаў дзесяць год назад. Не трэба было паўтараць два разы, каб людзі грамадскім чынам выканалі нейкую працу. А зараз? Крыўдна людзям, што іх забываюць мясцовыя ўлады.

Калі гміна не мае грошай на тыя платы дык праўленне дарог у Гайнаўцы павінна задбаць пра гэтую справу. Кузаўцы самі іх паставяць.

**Ул. Сідарук**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „КОЛЬКІ Ж ЧАКАЦЬ?", „Ніва", № 38 (1073) ад 19.IX. 1976 г.**

**Адказвае:**

URZĄD GMINY W DUBICZACH CERKIEWNYCH.

W związku z zamieszczoną notatką prasową w tygodniku „Niwa" w sprawie budowy remizy strażackiej we wsi Tofiłowce, niniejszym uprzejmie wyjaśnia się: faktycznie budowa ta przewleka się i notatka jest prawdziwa. Z powodu braków niezbędnych materiałów nie można zakończyć rozpoczętej budowy w przewidywanym terminie.

Składane kilkakrotnie zamówienia do Komisji rozdziału materiałów budowlanych przy Urzędzie Wojewódzkim w Białymstoku nie zostały załatwione i wykonawca we własnym zakresie pozyskuje z wolnego rynku. Z tych powodów budowa przebiega w powolnym tempie. **Jednak mimo występujących trudności zakłada się, że stan surowy budynku zostanie do końca r/b zakończony.**

**Zgodnie z zawartą umową z wykonawcą, całkowite zakończenie budowy nastąpi w I półroczu 1977 roku.**

Sekretarz Biura
Bazyl Laszkiewicz

—o—

**Да публікацыі: „КАБ НЕ ТОЙ ВОЗІК", „Ніва", № 44 (1079) ад 31.X.1976 г.**

**Адказвае:**

**STACJA KOLEI PAŃSTWOWYCH KUŹNICA BIAŁOSTOCKA.**

W związku z notatką zamieszczoną w Waszej gazecie uprzejmie informujemy, że **zwrócono uwagę Warszawskim Restauracjom Dworcowym, Zakład „Wars" w Kuźnicy Białostockiej. Wózek został zmagazynowany w pomieszczeniu. „Wars" uprzejmie dziękuje za zwróconą uwagę.**

Zawiadowca
podpis nieczytelny

—o—

**Да публікацыі: „ЗА ШТО ПЛАЦІЦЬ?", „Ніва", № 40 (1073) ад 3.X. 1976 г.**

**Адказвае:**

**BIAŁOSTOCKI ZWIĄZEK SPÓŁEK WODNYCH W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na zamieszczony artykuł w Tygodniku „Niwa" pt. „Za co płacić", dotyczący wsi Białki, Białostocki Związek Spółek Wodnych — Biuro w Białymstoku informuje, że modernizację rowów w uroczysku „Grada" przeprowadzono w ramach robót inwestycyjnych obiektu Folwarki Tylwickie w latach 1975—76. Roboty inwestycyjne na w/w obiekcie rozpoczęto 2.IV.1975, a zakończono 8.IX.1976 r.

**W związku z powyższym obciążenie rolników składką udziałową za konserwację rowów w tym okresie było bezpodstawne.**

Nadmieniamy, że teren ten został przyjęty z byłego pow. Hajnówka od dnia 1.I.1976 r. Przekazane dokumenty z PZGWiM w Hajnówce nie zawierały żadnej informacji odnośnie wykonywanych robót na tym terenie i zwolnienia rolników z opłat za konserwację urządzeń wodno-melioracyjnych. **Obecnie po wyjaśnieniu całości sprawy przez tut. BZSW postanowiono, że opłacone należności za lata 1975/76 zostaną zaliczone w poczet opłat roku 1977/78. Na indywidualne wnioski zainteresowanych należność za rok 1978 może być zwrócona.**

Kierownik
Związku Spółek Wodnych
mgr inż. Jerzy Pączkowski

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

**Імпартгумар**

# КРАСУНЯ САЛІМА

Да новага дырэктара саўгаса першай увайшла красуня Саліма. Як толькі пераступіла парог, яна ўсміхнулася і праспявала:

— Гэта вы шматпаважаны новы дырэктар?

— Так, гэта я! З кім маю гонар?

— Я красуня Саліма!

— Слухаю вас, красуня Саліма!

— Скажыце, шматпаважаны новы дырэктар, чыёй жонкай я буду заўтра?

Дырэктар зняў акуляры.

— Што вы сказалі?

— Чыёй жонкай я буду заўтра?

— Выбачайце, але, мне здаецца, ад мяне гэта не залежыць...

— Наадварот! — ажывілася Саліма. — Менавіта ад вас усё і залежыць!

— Не разумею.

— Ах, ужо мне гэтыя мужчыны! — усклікнула Саліма. — Калісь я была жонкай дырэктара саўгаса! Якія залатыя часы тады былі! Я раз'язджала па ўсім раёне на персанальнай „Волзе". У мяне былі персідскія дываны і французскія віны! У мяне былі пашана і слава. „Во, глядзіце, дырэктарша едзе!" — гаварылі з зайздрасцю жанчыны нашага аула і кланяліся пры сустрэчы. А ён, мой дырэктар, палажыў палавіну саўгаса да маіх ног!

Красуня Саліма ўздыхнула.

— Потым я была жонкай кіраўніка, і ён падарыў мне ферму! Бег час, і неўзабаве я стала жонкай заатэхніка. Шчыра кажучы, жыць яшчэ было можна. Мой заатэхнік дарыў мне скуры баранкоў. Я была апранута з ног да галавы ў каракуль... Потым я была жонкай брыгадзіра, звеннявога...

— А зараз, выбачайце, чыя вы жонка?

— Шчыра кажучы, амаль нічыя! — скрывіла губкі красуня Саліма. — Гэта я, былая дырэктарша, стала жонкай нейкага ўчотчыка, які вымушаны займацца падрабляннем нарадаў, каб наскрэбсці мне на Сочы! О алах!

— А чаму вы так часта мяняеце мужоў?

— З чаго вы ўзялі, паважаны?! — абурылася красуня Саліма. — Муж у мяне адзін! Толькі пасады ў яго мяняюцца. І зараз, кажуць, усё ідзе да таго, што яго зробяць простым даглядчыкам жывёлы... Нічога, апрача свежага мяса і камбікорма, я не ўбачу!

— Ну, што вы...

— Дык чыёй жонкай я заўтра буду? — праспявала красуня Саліма і падарыла дырэктару асляпляльную ўсмешку.

— Зайдзіце заўтра, — адказаў дырэктар. — Баюся, што мне давядзецца параіцца са следчым...

**Нурдаўлет Байсеркесаў**
Алма-Ата





**...За апошні год ён столькі вынес, што хапіла на абсталяванне кватэры.**

# НІЎКА



*Калі дамоў ісці зусім не хочацца.*

## ЗАВЯЗАЛІ

*Прыйшоў Кузьма пасля пахмелля*
*Да сабутыльніка Фамы*
*І мовіў так: „Давай з нядзелі*
*Гарэлкі піць не будзем мы".*
*„Давай, Кузьма! Я цалкам згодзен.*
*Завяжам! Хопіць нам брыдот.*
*З хвіліны гэтай з нас ніводзін*
*Не возьме больш гарэлкі ў рот"!*
*Ідуць, ажыўлена гавораць,*
*Вядзе іх вулка да ларка.*
*І тут угледзелі Рыгора —*
*Бутэлечнага дружбака.*
*„Рыгор, здароў!" — „Здароў,*
*старыя!" —*
*І цісне рукі ім Рыгор.*
*„Мо па рублю?" — „Ды не, бог*
*крые!*
*Мы пераходзім на чабор".*
*„Ды кіньце, хлопцы! Што за*
*жарты?*
*Жанчыны вы ці мужыкі?*
*Вам піць ды піць з вялікай*
*кварты,*
*А вы — чабор. Во дзівакі!"*
*Кузьма маўчыць і косіць вокам*
*На спахмурнелага Фаму.*
*„Хіба... глынуць якога соку, —*
*Нарэшце кажа той яму. —*
*Субота сёння. Дык сышліся...*
*Ну, толькі б горла прамачыць*
*У знак таго, што пакляліся*
*Саракаградуснай не піць".*
*Віна спачатку заказалі*
*На паўлітэрачку на нос,*
*Затым гарэлкі, піва ўзялі —*
*І... змей зялёны іх панёс!*
*А дзе насіў іх, адным словам,*
*Ніхто не помніць — хоць забі.*
*...І ў панядзелак па вымове*
*За п'янства кожны адхапіў.*

**Лаўрэн Скобля**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Што ні кажыце, а на Месяцы водзяцца зайцы, — настойліва сцвярджаў адзін паляўнічы...

— Няпраўда, — запярэчыў другі, — каб там былі зайцы, то, напэўна, наш Лунаход злавіў бы хоць аднаго...

— Не спрачайся... Мой ганчак не стаў бы дарэмна брахаць на Месяц.

*

Антуан заходзіць у бар, заказвае бакал віна, выпівае яго і кідае на прылавак манетку.

— Выбачайце, мсье, — гаворыць бармен, — з вас яшчэ пяцьдзесят сантымаў.

— Што, бакал віна падаражэў на пяцьдзесят сантымаў?

— На жаль, так.

— Дык жа ў газетах пісалі, што цэны на віно не вырастуць.

— Так, мсье, ды вада...

*

„Паважаны містэр Люіс, — піша абураная маці аднаго з вучняў школьнаму настаўніку. — Вы не маеце права больш караць майго Томі. Ён далікатны, слабенькі. Мы ніколі не б'ем яго, хіба што ў парадку самаабароны".

**ГУМАР З ...**

— Ці табе заяц, а мне баран, ці мне баран, а табе заяц, а-такі выходзіць, што мне баран, а табе ўсё ж заяц.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Лілі Харкевіч з Міхнаўкі, таксама Госі і Ірэны Ігнацюк змяшчаем песню*

## PORT PIRATÓW

**słowa: Agnieszka Osiecka**
**muzyka: Seweryn Krajewski**
**śpiewają Czerwone Gitary**

Ech, piracki los,
Chociaż pełen trzos,
i choć każdy jak lord,
diabeł ukrył nasz port.
Jeszcze noc, jeszcze dzień,
jeszcze noc, jeszcze dzień,
gdzie nasz port, gdzie ach gdzie,
szukam go we mgle!
Okręt chwieje się,
w gorze mewy złe,
wściekły wiatr żagle rwie,
diabeł ukrył nasz port.
Jeszcze noc, jeszcze dzień,
Jeszcze noc, jeszcze dzień,
gdzie nasz port, gdzie ach gdzie,
szukam go we mgle!

Tak daleko od drzew,
tak daleko od pól,
nie dociera tu śpiew,
a fala jak góra i żagli purpura
rozniecа ból.

Ech piracki szyk,
w kartach — czarny pik,
został nam wody łyk,
diabeł ukrył nasz port.
Jeszcze noc, jeszcze dzień,
gdzie nasz port, gdzie ach gdzie,
szukam go we mgle.

Tak daleko do żon,
tak daleko do gwiazd,
nie dociera tu dzwon,
nie woła, nie dzwoni, nie wzywa,
nie chroni
portowy dzwon.

W górze mewy złe,
diabeł śmieje się.
Komu śmiech, komu żal,
tańczy okręt wśród fal.
Jeszcze noc, jeszcze dzień,
jeszcze noc, jeszcze dzień,
gdzie nasz port,
gdzie ach gdzie,
widzę go we mgle.



*З прыгод паляўнічага.*

### МЕНАВІТА

— Сёння самы шчаслівы дзень у тваім жыцці, — узрушыў бацька.

— Чаму, тата? Я ж жанюся не сёння, а заўтра!

— Менавіта таму і шчаслівы.



### ГАДЗІННІКІ

Збіральнік старажытнасцей паказвае сваім сябрам калекцыю старых гадзіннікаў:

— Гэта — сонечны гадзіннік. Вось тыя паказваюць заходнееўрапейскі час... гэтыя сярэднееўрапейскі, а астатнія — усходнееўрапейскі.

— Добра, а якія паказваюць дакладны час?

— Калі трэба, я званю па тэлефоне ў стол даведак.

### СУПАКОІЛА

— Мой бедны муж памёр праз тры дні пасля вяселля! — скардзіцца маладая ўдава.

— Не расстрайвайся, — супакойвае яе сяброўка. — Прынамсі доўга не пакутвала.

### ЦЭННАСЦЬ

— Ты мяне здзіўляеш, — гаворыць жонка мужу. — Увесь дзень размаўляеш з сабакам, прытым ведаеш, што ён нічога табе не адкажа.

— Вось гэта я больш за ўсё і цаню ў ім.

### РАМАН

— Ці ёсць што-небудзь горшае за тое, чым займаюцца героі вашага рамана? — спытала чытачка ў пісьменніка.

— Ёсць, — адказаў той, — гэта прадаць такую кніжку.

# Курёзы

### ПРАДАЕЦЦА... НОБЕЛЬ

У канцы мінулага века буйны шведскі інжынер і прадпрымальнік Альфрэд Нобель, які меў фабрыкі па вытворчасці нітрагліцэрынавых узрыўчатых рэчываў у Швецыі, Германіі, Францыі і іншых краінах, завяшчаў частку сваіх вялікіх капіталаў на заснаванне пяці штогодных міжнародных прэмій за важнейшыя даследаванні ў галіне навукі, лепшыя творы літаратуры і творы, якія спрыяльны для ідэі міра і збліжэння народаў. Памер кожнай прэміі залежыць ад даходаў, якія прыносіць завешчаны капітал.

Паралельна нямногім выдатным людзям дасталіся гэтыя прэміі. Лічаная колькасць лаўрэатаў насіла на сваіх грудзях адметны нобелеўскі медаль. Але на што толькі не здольна прадпрымальнасць! Нядаўна стала вядома, што славу нобелеўскага лаўрэата разам з залатым медалём можна набыць на выстаўцы ў Лос-Анджэлесе за 15 тысяч долараў. Аказалася, што гэты медаль у 1966 годзе быў прысуджаны вучонаму-хіміку за адкрыццё ў галіне хіміі. А родзічы выдатнага нябожчыка, якім медаль дастаўся ў спадчыну, палічылі: паколькі слава не належыць ім асабіста, то яе можна прадаць.

На думку спецыялістаў залатых спраў, гэтая чужая слава разам з медалём каштуе ўсяго толькі 2.000 долараў.




**Развод культурных людзей: дзеляць паміж сабою не толькі кватэру, мэблю, дзяцей, але і сябраў.**